

# ЗЯЛЬВЯНАЧКА

Першая на Зельвеншчыне
вучнёўска-бацькоўска-настаўніцкая газета
сярэдняй школы №3




# Віншуем з Днём настаўніка !

## *Паважаныя настаўнікі!*



Віншуем вас з прафесійным святам!

Ад душы жадаем вам кахання, дабрыні, вернасці і ўсяго таго, што ўпрыгожвае наша жыццё, што сагравае і напаўняе сэрца.

Няхай у вашых хатах пануе мір і згода, няхай вашы дзеці радуюць вас. Няхай вашы вочы будуць пільнымі, каб бачыць усю шматколернасць жыцця, а сэрцы, поўныя кахання да людзей і спачування да іх. Няхай душа ніколі не ведае адзіноты. Няхай заўсёды побач з вамі будуць вашы каханыя, вашы блізкія, вашы сябры. І ўсім ім і вам жадаем здароўя, жыццялюбства і веры.

***Са святам!***

Дырэкцыя школы,
прафкам.



школа № 3

**Мая настаўніца.**

Я не забуду ніколі
Сшыткі, пеналы, буквар.
Першыя радасці ў школе,
Першай настаўніцы твар.

Я не забуду ніколі
Рукі яе, што вялі
Нас, як па роднаму полю,
Па неабсяжнай зямлі.

Я не забуду ніколі
Добрых і ясных вачэй.
Можа ад іх наваколле
Стала шырэй і ярчэй.

Першай настаўніцы словы,
Дзе мне не здарыцца быць,
Так, як і матчыну мову,
Нельга ніколі забыць.

С.Грахоўскі.

# Віншаванні



Паважаны педагагічны калектыў сярэдняй школы №3!

Ад імя бацькоў 11"б" класа і ад сябе асабіста віншую вас з прафесійным святам – Днём настаўніка! Жадаю вам моцнага здароўя, поспехаў у працы, асабістага шчасця, дабрыні,цяпла, сілы, узаемаразумення і вялікага цярпення ў выхаванні нашай змены.

Мы, бацькі, спадзяемся, што вучні 11 класа апраўдаюць нашы і вашы надзеі і прыкладуць усе сваё намаганні, стараннe ў аваладванні ведамі, паспяхова закончаць навучальны год і паступяць у навучальныя ўстановы, і ваша высакародная праца не будзе дарэмнай, за што мы вам удзячны ад усяго сэрца.

***Т.У.Месячык.***

***

Віншуем увесь настаўніцкі калектыў СШ № 3 з наступаючым святам – Днём настаўніка. Жадаем вам добрых адказаў вашых вучняў, цярпення, здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага.

***Вучні** 11 "Б" класа.*

***

Паважаныя настаўнікі!

Сардэчна віншуем вас з прафесійным святам – Днем настаўніка. Жадаем вам моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, вечнай маладосці, творчых поспехаў, выдатных вучняў і бацькоў, якія вас разумеюць.

*Удачи вам, сельские и городские,*
*Уважаемые учителя!*
*Добрые, злые и никакие*
*Капитаны на мостике корабля ...*
*Удачи вам, дебютанты и асы,*
*Удачи! Особенно по утрам,*
*Когда вы входите в школьные*
*классы...*

*З вялікай удзячнасцю за вашу працу* ***выпускнікі 2000 года.***



Паважаныя настаўнікі!

У гэты святочны для вас дзень прыміце мае шчырыя віншаванні з нагоды прафесійнага свята.

Жадаю вам творчага натхнення, таленавітых вучняў, аднадумцаў у асобе бацькоў, здароўя і дабрабыту вам і вашым сем'ям.

Няхай вашы выхаванцы радуюць вас сваімі ведамі і дасягненнямі.

***Т.К.Сітко*** *,*
*член Савета школы.*

***

Настаўнік не робіць кар'еры. Ён прыходзіць у школу настаўнікам і пакідае яе ў тым жа званні, хіба што толькі прыбаўляе слова пенсіянер. Ён- артыст, але яго слухачы і гледачы не апладзіруюць яму. Ён- скульптар, але яго працы ніхто не бачыць. Ён- урач, але яго пацыенты рэдка дзякуюць яму за лячэнне і далёка не заўсёды хочуць лячыцца. Дзе ж ўзяць яму сілы для штодзённага натхнення? Толькі ў самім сабе, толькі ў усведамленні вялікасці сваёй справы. І толькі ў падтрымцы ўсяго грамадства, у павазе грамадства да яго.

Сёння мы віншуем з Днём настаўніка калег, якія пакінулі сцены школы са званнем пенсіянер:

**Генюш** Ірыну Уладзіміраўну,
**Лазута** Раісу Іванаўну,
**Кажамякіну** Ніну Пятроўну,
**Чыграй** Зінаіду Міхайлаўну,
**Голуб** Марыю Паўлаўну,
**Шэйпак** Марыю Ігнацьеўну,
**Краўцову** Лідзію Іванаўну,
**Барысевіч** Надзею Аляксандраўну,
**Капіца** Тамару Ціханаўну.

Жадаем вам , паважаныя жанчыны, здароўя, аптымізму, сямейнага дабрабыту, павагі ад тых, хто з вамі побач.

***Калектыў СШ № 3.***



Паважаныя Настаўнікі!

Прыміце самыя шчырыя віншаванні са Святам. Хачу выказаць Вам сваю ўдзячнасць і пажаданні ўсяго самага найлепшага, як былы вучань, мужык настаўніцы і бацька вучаніцы.

Вялікі дзякуй за Вашу працу, за Вашу вернасць абранай прафесіі, якой Вы не здрадзілі ў сённяшні нялёгкі час, падаўшыся на " лёгкі хлеб" і больш прыстойныя заробкі.

Няхай сёння цёплыя і шчырыя словы Вашых вучняў падымуць Вашыя настрой і натхненне. І калі, нягледзячы на спадзяванні, Вы не атрымаеце чаканых паштовак з віншаваннямі ад сваіх былых вучняў, даруйце ім, як даравалі ім заўжды. Будзьце ўпэўнены, яны часта думаюць аб Вас з пяшчотай і замілаваннем.

Нізкі паклон маім Настаўнікам: Елізавеце Паўлаўне Лізуновай, Тамары Ціханаўне Осіпавай – Капіца, Яўгену Васільевічу Сончыку, Ганне Паўлаўне Дабрыян, Екацярыне Іосіфаўне Паповай, Зінаідзе Міхайлаўне Чыграй, Уладзіміру Станіслававічу Дзерачэніку, Канстанціну Альбінавічу Ляоніку і ўсім Настаўнікам Зельвенскай сярэдняй школы 70-х гадоў.

Цяжэй няма стратаў у жыцці, чым страты блізкіх людзей. Хачу ўспомніць добрым словам і малітваю Настаўнікаў: Івана Васільевіча Іоську, Галіну Дзмітрыеўну Флярову, Алу Матвееўну Сончык, Мікалая Рыгоравіча Ставенка, Вольгу Антонаўну Клубовіч, Ніну Васільеўну Калеснікаву, Анатоля Васільевіча Масальскага. Вас няма сёння з намі, але ўдзячнасць, павага і памяць соцен Вашых вучняў будзе жыць доўга.

***Юры Качук,***
*бацька Юлі, вучаніцы 8 "А" класа.*

# Вось і лета прайшло...

**Лета-цудоўная пара года! Лета-час самых доўгіх канікул. У кожнага вучня засталося шмат незабыўных момантаў з гэтага часу. Сваімі ўражаннямі пра летні адпачынак мы папрасілі падзяліцца вучняў нашай школы.**

*У жніўні я паехала ў лагер "Эрудыт", які створаны на базе лагера "Блакітная хваля". Першыя дні былі не надта цікавымі. Але з кожным днём жыццё ў лагеры мянялася. Кожны вечар праводзіліся мерапрыемствы. Адно з іх мне запомнілася больш за ўсе. Гэта "Дзень наадварот". Кожны хлопчык павінен быў быць дзяўчынкай, а дзяўчынкі-хлопчыкамі. Дзяўчынкі павінны былі насіць адзенне хлопчыкаў і наадварот. Надта цікавы выгляд мелі хлопчыкі, пераадзетыя ў дзяўчынак. Ім прыйшлося насіць кароткія сарафаны і маленькія хвосцікі на галаве. І хадзіць яны павінны былі так, як дзяўчынкі. Было смешна і цікава.*

*Такіх вясёлых мерапрыемстваў было шмат. І цяпер, калі я іх успамінаю, мне хочацца ў лагер зноў. Хочацца вярнуць тых сяброў, якія былі разам у атрадзе, тых важатых, што працавалі з намі. І наогул, хочацца вярнуць той час- канец лета 2000 г.*

***Федарава Іна,***
*вучаніца 7"Б" класа.*

*Я думаю, што кожны чалавек любіць лета. Таму што немагчыма не любавацца высокімі зялёнымі бярозкамі на ўскрайку лесу, магутнымі дубамі, прыгожымі рознакаляровымі кветкамі, матылькамі, якія, трапечучы сваімі крыльцамі, пералятаюць з кветкі на кветку, спевамі птушак.*

*Мне вельмі спадабалася, як я правяла свае канікулы. Амаль кожныя выхадныя я ездзіла разам з бацькамі ў лес па ягады, па грыбы. Мне вельмі падабаліся моманты, калі ўваходзіш у светлы лес і адразу бачыш вялікую сакавітую сунічку ці свой першы маленькі баравічок. У такія моманты здаецца, што гэта самы цудоўны дзень у тваім жыцці.*

*А яшчэ я гуляла са сваімі сябрамі на вуліцы. Чым толькі мы не займаліся : і ў футбол гулялі, і ў хованкі, і ў валейбол, і ў іншыя гульні. Я была на вуліцы з раніцы да вечара. А калі прыходзіла дадому, чытала захапляльныя кнігі, малявала на розныя тэмы.*

*Адным словам, я цудоўна праводзіла час.*

***Бушыла Алеся,*** *вучаніца 7"Б" класа.*

*Самыя вялікія канікулы, летнія, я правёў у маёй цёткі. Яна жыве ў Расіі, дакладней у прыгожым горадзе Смаленску. Гэта вельмі старажытны і таму цікавы горад. Ен падзелены на шмат частак, якія аддзяляюцца крэпаснымі сценамі. У старажытнасці так было лягчэй абараняцца ад ворагаў. Калі адну частку захопіць вораг, то можна было схавацца ў другой.*

*У горадзе шмат музеяў. Вельмі цікава было ў музеі васкавых фігур.*

*У Расіі я паспрабаваў усходняе блюда пад назвай "Шаурма". Гэта ляпёшка, у якую закручана мяса з рознымі прыправамі і соусамі. Вельмі смачна.*

*У Смаленску мне вельмі спадабалася. Я хацеў бы мець яшчэ адну цетку, але ў ЗША.*

***Буглаеў А.,***
*вучань 7"Б"класа.*

*Шчыра кажучы, я лічу, што мне вельмі пашанцавала: я змагла адпачыць 10 дзён у Венгрыі, у горадзе Байя.*

*Дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў распрацоўцы праектаў у глабальнай сетцы Інтэрнэт, мне прадставілася магчымасць пазнаёміцца з дзецьмі з 14 краін. Група з Беларусі складалася з 5 вучняў і кіраўніка. Сустрэлі нас, нягледзячы на тое, што мы прыехалі ноччу, вельмі цёпла і гасцінна. Размаўлялі мы амаль толькі на англійскай мове, што і дало магчымасць папоўніць свае веды.*

*Мэта нашага падарожжа – прадставіць беларускую культуру і пазнаёміцца з культурай,нацыянальнымі традыцыямі іншых краін.Было сапраўды цікава даведацца,як жывуць людзі ў Грузіі, Андоры, Македоніі, Румыніі і інш.. Я магу з упэўненасцю сказаць,што нам не было сорамна за Беларусь, мы ганарыліся сваёю Бацькаўшчынаю. Экскурсіі па музеях, гораду нас проста захаплялі. Адпачынак, спёка 40°С, р.Дунай – гэта цудоўна. Усё было так незнаёма і так вабіла да сябе.У нас зусім не было часу сумаваць. Кожны дзень мы займаліся нечым новым: то нас вучылі рабіць сувенірчыкі з бісера, то мы прaлі і мылі са скуры, то рабілі габелены і гэта яшчэ далёка не ўсё. А кожны вечар мы наведвалі дыскатэкі, куды прыходзілі венгерскія юнакі і дзяўчаты.*



*Я не магу абмінуць увагай экскурсію па сталіцы Венгрыі – г.Будапешце. Гэта было проста цудоўна: будынкі, помнікі архітэктуры ўражвалі сваёй велічынёй і прыгажосцю, масты праз Дунай даўжынёй амаль 2 км. і, вядома, – горы. Венгрыя запомнілася мне, як краіна кветак, якія растуць там паўсюдна. Пасябраваўшы з дзецьмі з розных краін, мне было вельмі цяжка развітвацца з імі, але,дзякуючы Інтэрнэту і электроннай пошце, я надтрымліваю адносіны з некаторымі з іх. Магчыма, я выклала свае ўспаміны не вельмі паслядоўна,але прычына гэтаму тое, што ўражанне, якое я атрымала за 10 дзён, проста немагчыма адлюстраваць на паперы. Усё гэта дзякуючы майму ўдзелу ў праектах . Я хачу выказаць вялікую падзяку сваёй настаўніцы англійскай мовы Канецкай Н.Л. і настаўніку інфарматыкі Вярстаку С.Ф., бо дзякуючы ім, такая магчымасць ёсць у кожнага, хто працуе ў Інтэрнэце. Я хачу пажадаць усім вучням: " Працуйце, і ўсё ў вас атрымаецца ".*

***Гедрэвіч Вольга,***
*вучаніца 10 " Б " класа.*

*Вось і збылася мая мара - пабываць у якой - небудзь іншай краіне свету. За свае 15 гоо я не была нідзе, акрамя Беларусі і Украіны. А тут так пашанцавала, ды яшчэ куды! У саму Румынію!Я вельмі ганаруся тым, што ўвайшла ў лік гэтых шчаслівчыкаў, і вельмі ўдзячна за гэта сваёй настаўніцы Канецкай Н.Л..Сустрэлі нас у горадзе Дэж гасцінна. Мяне вельмі ўразіла знешняя прыгажосць гэтага горада, а таксама ўнутраная прыгажосць людзей, якія там жывуць. Дарэчы, кожны вучань ліцэя ў Дэж, які добра валодае англійскай мовай, выказаў жаданне ўзяць прыехаўшых рабят да сябе. Гэта ідэя была цудоўнай - мы за час знаходжання ў сем'ях мелі магчымасць больш даведацца аб жыцці нашых румынскіх равеснікаў.За гэтыя*



*некалькі дзён я пасябравала з многімі дзецьмі з іншых краін, таму час я правяла там цудоўна. Размаўлялі мы паміж сабой толькі на англійскай мове, што дало вялікі штуршок у пазнанні гэтай вельмі цікавай і прыгожай мовы.Больш багацейшым стаў і мой кругагляд. Мы пабывалі ў трох краінах і шматлікіх прыгожых гарадах. Ад паездкі засталіся самыя прыемныя ўспаміны і надзвычайныя ўражанні. А мы так усе пасябравалі за гэтыя 7 дзён, што не хацелася развітвацца, так хацелася яшчэ пабыць з новымі сябрамі! Але ж , як кажуць:" У гасцях добра, але дома лепей". Таму трэба было ехаць дамоў.Няхай гэтыя дні мінулі, а ў сэрцы яны засталіся на ўсё астатняе жыццё.*

***Цярэшка Марта**.вучаніца 10 " Б " класа.*

# Як мы пачалі навучальны год.

Вось мы і правучыліся першы месяц навучальнага года. Як прайшоў гэты час, якія ўражанні засталіся ў нашых вучняў ад пачатку навучальнага года, што іх радуе, што хвалюе, а на што неабходна звярнуць увагу? Цікава, а што думаюць тыя, хто першы раз пераступіў парог нашай школы ? А ці цяжка пяцікласнікам прывыкаць да новых настаўнікаў, якія іх вучаць? А што думаюць аб школе настаўнікі, якія пачалі працаваць толькі ў гэтым навучальным годзе, і вучні, якія прыйшлі да нас у гэтым годзе?

Прапануем вам, паважаныя чытачы, невялікія інтэрв'ю з вучнямі і настаўнікамі, якія падрыхтавалі нашы карэспандэнты: Ленец Эма(8Б), Шыла Ганна(8Б), Вярстак Кацярына(8Б).

Мне вельмі хацелася, каб хутчэй было 1 верасня. І калі гэты дзень наступіў, я была вельмі рада. Мне вельмі спадабалася школа. Яна выглядала як новая пасля летняга адпачынку.

***Патаповіч Юлія**,4"А"*

Я ўяўляў, што ў чацвёртым класе будзе вельмі цяжка і нават не хацеў ісці на лінейку. Настаўніца ў мяне вельмі добрая і дапаможа мне, калі ў гэтым будзе патрэба.

***Кічук Андрэй**, 4"А"*

Мне хацелася пайсці ў школу таму,што я ўбачу там сваіх знаёмых і сяброў, ды сваю настаўніцу.

***Лоўчая Ірына**, 4"Б" .*

Мае ўражанні аб пачатку навучальнага года сумныя, таму што калі пачынаецца навучальны год, тады надыходзіць восень і пачынаюцца халады, прырода становіцца цёмнай, а неба шэрае. І яшчэ трэба вучыцца.

***Юргель Юлія**, 4"Б"*

Першае верасня ў гэтым годзе для мяне было зусім незвычайнае. Чатыры гады мяне правучыла добрая і ласкавая Нэлі Антонаўна, а тут, на другім паверсе, нас сустрэла Анжэліка Міхайлаўна і разам з ёю шмат іншых настаўнікаў-прадметнікаў. Кожны настаўнік прынёс нам шмат незвычайнага. З'явіліся ў нас новыя прадметы. З прадметамі з'явіліся і новыя сябры ў класе і па-за класам.

***Скобла Дзіма**, 5"Б"*

Першага верасня з хваляваннем і трывогай я ішоў у школу. У мяне ўзнікла шмат пытанняў: хто будзе класным кіраўніком, якія новыя дзеці прыйдуць ў наш клас, якія новыя прадметы будуць у нас, у якім кабінеце будзем займацца. І вось я ў школе. Нас сабралі ў 42 кабінеце для знаёмства з класным кіраўніком. Тут я пазнаёмілася з новымі вучнямі,і мы пайшлі на ўрачыстую лінейку.

***Скіба Яўген**, 5"Б"*

Настаўнікі патрабуюць, каб мы вучылі ўсе правілы. Я лічу, што яны адносяцца да нас добра. Але падчас не вельмі задаволены намі. Мне спадабаюцца ўсе настаўнікі,яны добра растлумачваюць.

***Панасік Кірыл**, 5 "Б"*

У першы месяц навучання ў школе мне вельмі спадабалася патрабавальнасць настаўнікаў. За гэта ім вялікі дзякуй! Асабліва настаўнікам англійскай мовы і гісторыі. Яны стараюцца для вучняў, каб яны больш ведалі і запаміналі, таму што гэта ім спатрэбіцца пры паступленні ў навучальныя ўстановы.Вельмі добра, што ў школе выходзіць газета, бо вучні ў ёй могуць выказаць свой пункт гледжання на тыя ці іншыя праблемы школы. Часцей за ўсё вучні на ўроку выказаць свае меркаванні не могуць або баяцца. Але гэта яны змогуць у школьнай газеце. І настаўнікі, я лічу так, прачытаўшы яе больш добра, змогуць разумець вучняў.

***Вучаніца 8 класа.***

Мае ўражанні па першаму месяцу навучальнага года добрыя, настрой таксама добры. Але тое, што задаюць шмат урокаў, скарачае час для свабодных заняткаў. Але калі прыходзіш у клас, адразу становіцца весялей, бо наша школа і наш клас вельмі вясёлыя. Але на ўроках матэ--маты-кі, гісторыі, фізікі, хіміі, беларускай мовы і біялогіі такога вяселля няма. Пасля цяжкіх урокаў мы свабодна і гучна ўздыхаем, як быццам перажылі нешта неверагоднае.

***Лявіцкая Таццяна**, 8"А"*

Так як у трэцяй школе я вучуся не першы раз, я яе ведаю вельмі добра. Калектыў класа сустрэў мяне вельмі цёпла. Ужо з першага дня вучобы я адчувала сябе цудоўна. Адразу ў мяне з'явілася шмат сяброўак і сяброў, што прыдало мне стымул да вучобы. Прыйшоўся да спадобы мне і класны кіраўнік. Гэта сапраўды прыгожая і добрая жанчына, якая заўсёды дапаможа мне ў цяжкую хвіліну. Але я спадзяюся, што такіх хвілін у мяне не будзе. А, увогуле, я ўпэўнена, што ў мяне застануцца толькі светлыя ўражанні ад школы №3.

***Кішнеўская Вольга**,11 "Б"*

Базавую адукацыю я атрымала ў Бародзіцкай школе, але потым вырашыла пайсці вучыцца ў 10 клас СШ № 3. З першага дня мне тут спадабалася. Вельмі спадабаліся мне настаўнікі. Звяртаешся да іх за дапамогай і заўсёды пачуеш:"Калі ласка, чым магу дапамагчы?". Калі прыйшла ў клас,то такіх адносін з боку дзяцей я не чакала. М ы хутка пасябравалі. А яшчэ спадабалася школьная газета, з якой можна дазнацца аб жыцці школы.

Але, як і ў кожнай школе ,тут ёсць свае мінусы. Кепска, што трэба пераабувацца.

***Парцяная Вольга***, 10 "Б"

Я працую першы год у гэтай школе. І мне вельмі падабаецца мая праца. Мне прыемна размаўляць з вучнямі, настаўнікамі. Ужо некаторыя з іх звяртаюцца за дапамогай да мяне. Лічу, што мае парады ім дапамогуць. Думаю, што мне дапаможа і газета "Зяльвяначка" . З свайго боку я абяцаю ўдзельнічаць у выпуску газеты па пытаннях псіхалагічнай дапамогі бацькам і вучням, а таксама і настаўнікам . Калі ласка, звяртайцеся.

***Папова Алена Пятроўна***, псіхолаг.



**З 3 па 9 верасня ў школе прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя святу беларускага пісьменства і друку.**

# Фарміраванне і развіццё беларускай мовы.

Мова беларускай народнасці, як і іншыя ўсходнеславянскія мовы, пачынае фарміравацца з XIII ст. У гэты час тэрыторыя сучасных Беларусі і Украіны знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

Беларуская мова ( як і руская, украінская ) узяла за аснову з агульнаўсходнеславянскай мовы яе фанетычную сістэму, лексічны склад ( слоўнік ), граматычны лад.

Мова беларускай народнасці сфарміравалася на працягу XIУ ХУІ стст. Як адзначаюць даследчыкі, пісьмовыя помнікі па тэрыторыі Беларусі ўжо ў ХУ ст. "характарызуюцца насычанасцю спецыфічна беларускімі асаблівасцямі, і ёсць падставы гаварыць пра беларускую літаратурна пісьмовую мову, якая сваімі фанетычнымі , граматычнымі, лексічнымі асаблівасцямі істотна адрозніваецца ад усходнеславянскай мовы Х – ХІ стст.

У пісьмовых помніках ХУІ ст. знаходзім фанетычныя асаблівасці, характэрныя сучаснай беларускай мове. Вось некаторыя з такіх асаблівасцей: зацвярдзенне шыпячых ( вжывати, вчинити, ехавшы, жыто, служыти ) ; афрыката [дж] часта перадавалася спалучэннем дч ( наеждчати, приеждчати ); цвёрды гук [р] (вморыти, крычати, прыйти ) і інш.

Разнастайныя пісьмовыя помнікі ХУ ХУІ стст адлюстроўваюць слоўнікавае багацце старажытнай беларускай мовы, яе высокую ступень развіцця. У ёй адлюстраваны разнастайныя пласты лексікі: грамадска-палітычная ( апеляцыя, держава, декретъ, здрада, податокъ, пригонъ, умова, злочинца, невольникъ, зъездъ, комисаръ, конституция, скарбовый і інш. ); навукова-кніжная (наука, учоный, докторъ, звездаръ, академия, школьникъ, учень, наставникъ, педагогъ, авторъ, литера (літара), гисторикъ, мова і інш.); значнае месца займае бытавая, сельскагаспадарчая, сацыяльна-эканамічная, ваенная, прававая, прамысловая і іншая лексіка.

Беларуская мова ў Вялікім княстве Літоўскім была дзяржаўнай. Яна выкарыстоўвалася ў дзяржаўнай, дыпламатычнай і прыватнай перапісцы, у дзяржаўных установах. На беларускай мове стваралі мастацкія, публіцыстычныя і мемуарныя творы, на яе перакладалі рыцарскія аповесці і раманы, пісалі гістарычныя хронікі.

У развіцці беларускай пісьмовай мовы вялікую ролю адыграла кнігадрукаванне . Заснавальнікам беларускага кнігадрукавання ( 1517 ) быў вядомы вучоны , асветнік, выдатны грамадскі і культурны дзеяч ХУІ ст. , перакладчык, пісьменнік і мастак Францыск Скарына з Полацка. Свае кнігі ён выдаваў з мэтай пашырэння адукацыі сярод народа. Надрукаваныя кнігі Ф.Скарыны распаўсюджваліся не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім , але і ў Расіі, і на Украіне. Таму дзейнасць Ф.Скарыны мела выключна важнае значэнне для развіцця культуры і кнігадрукавання ўсіх усходніх славян-беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Друкарскую і асветніцкую справу Ф.Скарыны працягвалі С. Будны, В. Цяпінскі, П. Мсціславец і інш. Значны ўклад у развіццё старажытнай беларускай літаратурнай мовы зрабілі Л. Зізаній, М. Сматрыцкі, Л. Карповіч, А. Філіповіч і інш.

У другой палове ХУІ ст. складваюцца неспрыяльныя абставіны для далейшага развіцця беларускай пісьмовай мовы. У выніку Люблінскай уніі (1569) Вялікае княства Літоўскае і Польскае каралеўства аб'ядналіся ў адну дзяржаву - Рэч Паспалітую. З гэтага часу пачынаецца паступовае распаўсюджванне польскай мовы на тэрыторыі Беларусі. Каб процістаяць гэтаму, у дзяржаўны зборнік законаў "Літоўскі статут" 1566 г. уключаецца спецыяльны пункт аб ужыванні ў справаводстве толькі беларускай мовы (раздзел 4, артыкул 1). Гэты пункт захаваўся і ў Статуце 1588 г. Аднак у 1696 г.выйшаў закон, паводле якога польская мова стала дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Пачынаецца палітыка апалячвання і акаталічвання беларускага насельніцтва. Беларуская знаць прыняла каталіцкую веру і стала карыстацца польскай мовай, але беларускі народ у цэлым на працягу стагоддзяў захаваў сваю мову, культуру, звычаі.

У канцы ХУІІІ ст. пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя сучаснай Беларусі ўвайшла ў Расійскую імперыю. Забаранялася друкаваць на беларускай мове і нават прывозіць беларускія кнігі, выдадзеныя за мяжой. Школы працавалі на рускай мове. На беларускай мове дазвалялася друкаваць толькі фальклорныя матэрыялы, гістарычныя дакументы і помнікі. Аднак, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, развіццё мастацкай і публіцыстычнай літаратуры на беларускай мове не спрыяла. У другой палове XIX ст.і пачатку XX ст.з'яўляюцца творы Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Ядвігіна Ш., К. Каганца і інш. Самы буйны і яркі прадстаўнік беларускай літаратуры XIX ст.- Ф. Багушэвіч. Яго дзейнасць мела вялікае значынне ў развіцці беларускай літаратурнай мовы.Ён першы загаварыў пра беларускую мову як найважнейшы элемент нацыянальнай культуры, паставіў пытанне пра лёс яе развіцця.

У XIX- пачатку XX ст.з'яўляюцца навуковыя даследванні пра беларускую мову, яе гісторыю, фальклор. Было складзена некалькі слоўнікаў сучаснай і старажытнай беларускай лексікі. Найбольш каштоўныя з іх І. Насовіча (1870), І. Навіцкага (1872), Н. Гарбачэўскага (1874). Складзена не-калькі граматык, але яны не былі надрукаваны.

Асабліва вялікі ўклад у вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў канцы XIX- пачатку XX ст.унес Я. Ф. Карскі, які па праву лічыцца заснавальнікам сучаснага беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства. Самая каштоўная з яго шматлікіх прац- трохтомная манаграфія "Беларусы" (7 выпускаў), у якой на высокім навуковым узроўні даследуюцца гісторыя, мова, фальклор, пісьменнасць, шматвяковая культура беларускага народа. Я. Ф. Карскі навукова абгрунтаваў нацыянальную самабытнасць беларускага народа.

Пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг.была знята забарона друкавання на беларускай мове. З'яўляюцца выдавецтвы ("Загляне сонца і ў наша ваконца" і інш.), беларускія перыядычная выданні ("Наша доля", "Наша ніва", "Лучына" і інш.). На беларускай мове друкуюцца не толькі мастацкія і публіцыстычныя творы, але і дапаможнікі, падручнікі для навучання дзяцей, навукова-папулярныя творы і інш.

У гэты перыяд выпрацоўваюцца графічныя, арфаграфічныя, граматычныя, лексічныя, арфаэпічныя нормы беларускай літаратурнай мовы. Станаўленне норм літаратурнай мовы, яе ўзбагачэння і ўдасканаленне ў значнай ступені звязана з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цёткай, Максімам Багдановічам, Браніславам Тарашкевічам, Язэпам Лёсікам і іншымі выдатнымі беларусамі.

Падрыхтаваў ***Манько У.П,*** настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

## Урыўкі з сачыненняў вучняў 6"Б" класа "Нам трэба шанаваць сваю мову".

Любоў да сваей Радзімы, народа пачынаецца з любові да роднай мовы. А наша мова вельмі прыгожая, мілагучная ( камп'ютэр паставіў яе на другое месца пасля італьянскай), гнуткая, праз што вельмі падаецца да паэзіі і спеваў. Яна адна з найчысцейшых у славянскай сям'і моў.

***Іоська Наталля.***

Мова яднае нас у народ, які носіць прыгожае, светлае, гордае імя- беларусы. Будзем жа вывучаць і шанаваць гэты бясцэнны скарб, які стварылі і перадалі нам нашы таленавітыя продкі, мудрыя і мужныя дзяды і прадзеды.

***Жогла Вольга.***

Наша мова- гэта духоўны скарб беларускай зямлі. Тысячы і тысячы людзей слоўца да слоўца, гук да гука, песню да песні збіралі і зберагалі гэты бясцэнны скарб. Толькі тады цябе ўсе будуць паважаць, калі не адмовішся ад свайго нацыянальнага здабытку.

***Мяшковіч Святлана.***

**Мая мова.**

Беражы і ахоўвай залатыя правы
Нашай роднае мовы- і ты вечна жывы.
М. Лужанін.

Знакамітыя беларускія паэты на працягу ўсяго свайго жыцця ўслаўлялі і падымалі сваю родную мову ў вачах беларускага народа. Шмат часу пры цары беларуская мова не мела месца ў жыцці дзяржавы. Яна жыла толькі ў душах,казках,легендах простага народа. Сяляне складалі на ёй вершы, паданні, песні. Я. Колас сказаў:"...нам, вучням, было неяк асабліва прыемна чуць вершы на роднай мове". Прайшло не мала часу, пакуль беларускую мову пачалі лічыць самастойнай. Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1917г.пачалі друкавацца кніжкі і часопісы на беларускай мове (ужо цяпер па закону). Нямала працы і сілы ўклаў у гэта беларускі народ. Цяпер, у наш час, паглядзіш і думаеш :"І чаго не хапае для паспяховага існавання мовы?" А не хапае адной простай рэчы- не хапае любові да роднай мовы. Беларускі чалавек (не кожны) гатовы гаварыць на розных, абы толькі не на сваёй, роднай. Канешне, як толькі ты пачынаеш гаварыць на роднай мове, знаходзіцца такі, хто скажа:

"... ой, які ты беларус, ажно смешна..." Не было для беларускай мовы ні лёгкай гадзіны, ні часу росквіту. Кожны дзень мы чуем факты на яе карысць і супраць. На жаль, супраць становіцца ўсё больш і больш. Як мала тэлеперадач вядзецца зараз на беларускай мове, як мала ўстаноў з беларускай мовай навучання. А чым беларуская мова горшая за іншыя!? Наша родная мова заняла другое месца па мілагучнасці і прыгажосці ў свеце. Якія прыгожыя вершы на беларускай мове! Калі мы згубім сваю мову, мы згубім культуру, а значыць і свой твар перад усім светам. Мы прыніжаем сваю мову, а значыць і сябе перад іншымі народамі.

Я не пішу тут заклікаў шанаваць родную мову. Хопіць заклікаў! Хопіць тлумачыць -- ужо час разумець!

Кожны павінны разумець, што свабоднае валоданне беларускай мовай дае магчымасць авалодаць здабыткамі багатай нацыянальнай культуры, гісторыі роднага беларускага краю.

Беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь. Гэта замацавана ў нашай Канстытуцыі.

А ці так гэта на практыцы, у жыцці?!

*Дзінгілеўская Г.*, вучаніца 7 "А" класа.

# Нашы вершы

### Хлеб.

Люблю, як вясной зелянее,
А ўлетку ў палях каласіцца
Прыгожае жыта, пшаніца.
Увосень яго камбайнёр
Пускае ў свой транспарцёр.
Далей ужо мельніка праца:
Чысцютка змалоць пастарацца
А пекар з мукі серабрыстай
Прыносіць нам хлеб залацісты.
Каб елі ўсе смакавалі,
Людзей гэтых усіх успаміналі,
Сяброў і гасцей частавалі.

***Ленец Рыта Уладзіміраўна,***
маці Эмы, вучаніцы 8 "Б" класа.

* * *

Жоўты ліст зляцеў з клёна старога,
Жураўлі ўдалячынь паплылі.
І ля школьнага кружыць парога
Водар восені, роднай зямлі.
Ужо не першы раз кліча ў школу
Месяц- верасень з кветкамі нас.
Дык у дарогу, пара нам у дарогу
Як рабілі мы гэта не раз.
Што ж- жыццё шлях складаны, нягладкі,
І цяжкі, і вясёлы ў свой час...
Ну, а зараз пачуюцца словы:
" Калі ласка, заходзьце ў клас"...

***З. Н.***

### For Peace.

A girl wrote some words on the
Blackboard on day
These words are:" Please. No
War!"
And from these words it becomes
So gay
Because they sound like a law.
We love out Earth, it's reliable
Home
We want it is cared and warmed
With beautiful words and
Wonderful deeds,
I think these are all our needs.

***Юргель Святлана,***
8" А" клас.

* * *

Every day I am at school
I feel like at home
I send warmness you and proud
Because you are so cool!

* * *

My dear, dear teachers
I'd like to wish you
To be so kind and patient,
To have high reputation,
To love your pupils greatly
Like we love you.
I wish you are admired
And not to be so tired.
I hope that the next year
Will bring success in your career.
Our teachers are the best
I should say with proud
We can share with them rest
And everything we have.
They are clever, they are cool,
We can trust them all
I would like to stay at school
All my life, it's true.

***Канецкі Максім,***
6 "Б" клас.

* * *

### My Town.

My dear town and, I should say
I love you, it is true.
And all my hart and all my soul
Are full of proud of you

You are so beautiful with all
Your streets and lakes and woods
They call you pearl of Belarus
And within you my roots.

I love your people and I know
They are so good and you
Can proud of us because
We are your children,
We love you!

***Канецкі Аляксандр,***
10" Б" клас.

# Падзякі

*Вучні і настаўнікі выказваюць шчырую падзяку калектывам райаграпрамтэхнікі (дырэктар Турок І.І) і райсельгасхіміі (дырэктар Жалупка М.М.) за выдзеленыя сродкі на набыццё тэхналагічнага абсталявання для школьнай сталовай.*

У першым нумары газеты "Зяльвяначка" былі змешчаны віншаванні настаўнікаў з нагоды іх юбілеяў. У тым ліку віншавалі і мяне. Я вельмі ўдзячна ўсім тым, хто рыхтаваў гэты нумар газеты да выпуску. Для мяне быў прыемным сюрпрызам і сам выпуск газеты і, тым больш, віншаванне ў ёй . Плённай працы супрацоўнікам газеты. Няхай яна будзе добрым памочнікам тым, хто выхоўвае маладое пакаленне.

А яшчэ праз газету я хачу выказаць падзяку дырэкцыі школы, прафкаму, настаўнікам, усім работнікам школы, а таксама вучням за цудоўнае свята, якое яны падарылі мне ў дзень нараджэння. Гэта было вельмі прыгожа, тактоўна і ад усёй душы.

Тут было ўсё: і кветкі, і песні, і танцы, і мастацкае слова ад таленавітых вучняў школы, шчырыя словы ад калег.

Гэта свята-падарунак застанецца ў маёй памяці на ўсё жыццё.

Я яго ўспрымаю, як ацэнку нялёгкай шматгадовай працы ўсяго настаўніцтва.

***Кніга Святлана Сяргееўна,***
*настаўніца рускай мовы і літаратуры.*

## ВІНШАВАННІ



**Паважаная Лілія Барысаўна!**

Дазвольце Вас павіншаваць з Днём нараджэння. Жадаем Вам моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця. Няхай Ваш твар не азмрочваецца горам і турботамі, а заўсёды на ім пануе ўсмешка і адбіваецца добры настрой. Заставайцеся такой жа добразычлівай і ветлівай.

***Вучні 11 "Б" класа.***

9, 15, 26 верасня свой Дзень нараджэння святкавалі вучаніцы 11 "Б" класа **Месячык Вераніка, Навіцкая Таццяна і Кішнеўская Вольга**. Жадаем ім добрых адзнак, поспехаў у вучобе, сапраўдных сяброў, усмешак і, канешне ж , сапраўднага і чыстага кахання.

***Класны кіраўнік і вучні 11 "Б" класа.***

## З ЮБІЛЕЕМ

Шчыра віншуем:

**Хлапоніну Ірыну Раманаўну,**
**Якімовіч Таццяну Анатольеўну**

са знамянальнай датай у іх жыцці-з **юбілеем!** Жадаем ім моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, цяплыні, шчасця і радасці !

## ВЯСЁЛЫ ПЕРАПЫНАК

***З беларускага школьнага фальклору***

***

Маці: Ты памяняла ваду рыбам у акварыуме?
Дачка: Не, яны яшчэ не выпілі тую, якую я ім наліла ўчора.

***



-Што гэта ты, Сярожа, з'еў усе абаранкі, а аб малодшай сястрычцы не падумаў?
- Я ўсё думаў, мамачка, каб яна не прыйшла, пакуль я не з'ем іх.

***

На ўроку гісторыі:
Настаўнік: Як першабытныя людзі палявалі на мамантаў ?
Вучаніца: Яны капалі ямы, мамант бег, падаў туды і ламаў сабе рукі і ногі.

***

На ўроку матэматыкі:

Настаўнік: У цябе быў адзін яблык. Ты яго з'еў. Колькі засталося?
Вучань: Агрызак.



***

Настаўнік задаў сачыненне на тэму "Калі б я быў дырэктарам фірмы..." Усе старанна пішуць, адзін толькі Андрэй глядзіць у акно.
-А ты чаму не пішаш?- пытае настаўнік.
-Чакаю сакратарку!

## Паважаныя чытачы!

Рэдакцыя газеты "Зяльвяначка" з увагай і цікавасцю прачытала ўсе вашы водгукі, заўвагі і прапановы. Некаторыя з іх мы выконваем адразу . Вучань з 4 "А" класа (на жаль, ён не ўказаў сваё прозвішча) папрасіў надрукаваць у газеце анекдот .

Маці тэлефануе да Вовачкі:
- Вовачка, памый шыю і рукі, прыйдзе цётка Маша.
- А калі не прыйдзе, то я і буду, як дурань, з памытаю шыяю і рукамі?

Шмат дзяцей цікавяцца жыццёвым шляхам дырэктара школы. Рэдакцыя газеты звяртаецца да М.К.Літвінчыка з просьбай у бліжэйшы час правесці творчую сустрэчу з вучнямі школы.

На жаль, некаторыя з вашых просьбаў мы не можам выканаць.

Вельмі ўразіла просьба А.Кічука з 4 "А" класа даведацца са старонак нашай газеты, які ў гэтым годзе ўраджай і якія выпадкі былі за чатыры месяцы .Паважаны Андрэй, пра ўраджай і здарэнні чытай у раённай газеце "Праца".

Былі прапановы друкаваць і праграму тэлеперадач. Праграма тэлеперадач таксама друкуецца ў газеце "Праца".

Астатнія, па магчымасці, мы будзем выконваць. Чакаем вашых публікацый, кулінарных рэцэптаў, смяшынак са школьнага жыцця, крыжаванак, загадак. Жадаем вам поспехаў у творчасці.

***Рэдакцыя.***

У падрыхтоўцы нумара прынялі актыўны ўдзел Вольга Пятліцкая і Аляксей Юхневіч. Яны залічаны ў Ганаровыя Сябры рэдакцыі газеты «*Зяльвяначка*».

Ідэя і назва Юрыя Качука
Заснавальніца: Лілія Качук
Рэдактар: Наталля Рагоўская
Адказны за выпуск:
Сяргей Печарыца

Перадрук матэрыялаў толькі з дазволу рэдакцыі газеты.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 паасобнікаў.

Наш адрас:
231930,
г.п. Зэльва,
вул. Булака, 6
СШ №3.

Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным аб'яднаннем «Ратуша»
пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША
на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).